Published by BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc., U. S. A. and BYELORUSSIAN CANADIAN ALLIANCE

# Беларус

ЦАНА — PRICE ¢ 50

Post Address: BIELARUS P. O. Box 109 Jamaica, N. Y. 11431

ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЕ АМЭРЫКІ BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER OF NORTH AMERICA

Год XVIII. № 130 | Люты 1968. | NEW YORK — TORONTO | February 1968. | Vol. XVIII. № 130

## ДЭКЛЯРАЦЫЯ
## РАДЫ БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ

50 год таму Рада Беларускае Народнае Рэспублікі на сваім гістарычным пасяджэньні ўначы з 24 на 25 Сакавіка 1918 году, на грунтце паўнамоцтваў Усебеларускага Кангрэсу 28-31 сьнежня 1917 году, абвесьціла Беларусь вольнай, сувэрэннай, незалежнай дзяржавай.

Па 125 гадох няволі, жорсткай каляніяльнай палітыкі расейска-царскай адміністрацыі, зьдзеку, паняверкі над беларускаю культурай, мовай, па стагодзьдзі зацятага супраціву акупанту, суправоджанага стыхійнымі бунтамі й двума вялікімі паўстаньнямі, Беларускі народ выйшаў на вольны родны свой прастор. Актам 25-га Сакавіка разрываліся канчальна ягоныя кайданы, вызваляліся з путаў нацыянальна-творчыя сілы. Ужыцьцёўленьне адвечных лятуценьняў Беларускага народу гарантавалася цяпер 3-ма Устаноўнымі Граматамі, гэтымі асновамі ўзорнае дэмакратычнае канстытуцыі БНР.

Збываліся адвечныя лятуценьні беларускага селяніна пра перадачу бяз выкупу зямлі тым, хто на ёй працуе.

Работніку гарантаваўся найбольш 8-мігадзінны дзень працы, свабода забастовак, арганізацыі прафэсыйных саюзаў.

Свабода слова, друку, сходаў, палітычных партыяў, бязумоўная свабода рэлігіяў, незачэпнасьць асобы, памешканьня.

Агульнае, беспасярэдняе патаёмнае галасаваньне ў выбарах заканадаўных органаў усім выросшым жыхарствам на Беларусі, не зважаючы на род, народнасьць ці рэлігію.

Гэткай вось, запраўды дэмакратычнай, сацыяльна - справядлівай, гуманнай, на прасторах этнаграфічнае Беларусі, з больш як 20-цімільённым жыхарствам, паўставала Беларуская дзяржава — БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ РЭСПУБЛІКА.

Тымчасам на звольненым пасадзе цароў-дэспатаў усталяваўшыся былі новыя дэспаты, яшчэ больш фанатычныя ненавісьнікі свабоды, яшчэ зьлейшыя тыраны. Дэмагагічнымі, а ў існасьці антыпрыроднымі. антылюдзкімі канцэпцыямі, маной. хвальшам, тэрорам патрапілі змабілізаваць яны расейскія масы ды розныя інтэрнацыянальныя авантурыстычныя элемэнты на чале з крывавымі садыстымі, паставілі сабе за мэту апанаваць цэлым сьветам. Маладая Беларуская рэспубліка была першай ахвярай нэа-маскоўскіх імпэрыялістых.

Каб лягчэй зламаць супраціў Беларускага народу, яны крывадушна паўтарылі дарагія сэрцу Беларуса бээнэраўскія нацыянальныя і сацыяльна-палітычныя дэвізы. Яны абвесьцілі 1-га студзеня 1919 году ў Смаленску таксама „сувэрэнную", „незалежную" БССР, і таксама, як і БНР, у этнаграфічных межах Беларусі... На працягу-ж вайны, у залежнасьці ад ваенных удачаў ці няўдачаў, брутальна манэўравалі гэнай сваёй БССР.

Гэтак, простым „указам" з Масквы „разабвесьцілі" тую сваю смаленскую БССР ды „абвесьцілі" „незалежную" фэдэратыўную Літоўска-Беларускую ССР — ЛІТ-БЕЛ, а найвялікшую частку беларускіх земляў з усходу з тым гістарычным Смаленскам прырэзалі да свае Расеі...

„Разабвесьцілі" затым і „Літ-Бел" ды „пераабвесьцілі" ізноў „чыстую" БССР, толькі ўжо ў межах 6 паветаў былое Менскае губэрні, ганебна гандлюючы заходня-беларускімі землямі на ўсе бакі з заходнімі суседзямі, каб аслабіць патэнцыял адпорнасьці Беларускага народу. Усталяваўшыся нарэшце ў Беларусі, акупант ськінуў маску і паказаў сваё запраўднае аблічча тырана. Забойствамі на месцы, катаваньнем у турмах, вымарам у канцлягерах, зрэдукавалі колькасна беларускае жыхарства блізу на палавіну. Вось што, Беларускі народзе, прынёс Табе чырвоны акупант на замену Беларускае Народнае Рэспублікі.

Заміж запэўненае законам БНР свабоды сумленьня, рэлігіі, незачэпнасьці асобы й памешканьня — паўнаўладнымі гаспадарамі кажнае хаты, кажнае сям'і, кажнае адзінкі паставілі звыродных чэкістых, адаўшы ў іхныя рукі ўсю Тваю долю, ўсё Твае жыцьцё.

Заміж найбольш 8-мігадзіннага працоўнага дня — устаноўленая была найдасканальнейшая сыстэма эксплаатацыі работніка.

Заміж зямлі бяз выкупу — выкуп крывавымі „працаднямі" скарынкі хлеба ў вадноўленай паншчыне — прыгоне — калгасаў — саўгасаў.

Заміж свабоды сходаў — зганяюць усіх слухаць ды пляскаць на прамовы-навучаньні ненавідных Табе партыйных прапагандыстых.

Свабода слова, друку сталася адзінай і вылучнай манаполіяй падгалоскаў камунізму.

Заміж забясьпечанага законам БНР дэмакратычнага выбарнага права ўсім грамадзянам — акупант „выбірае" „указам" з Крамля сваіх-жа „кандыдатаў" ды, агідна зьдзекуючыся з права свабоды, гоніць гвалтам народ да „урнаў" кідаць туды ўпіханыя ў рукі казённыя аднастайныя „бюлетэні". Зьдзек і глум у жывыя вочы стаўся законам і правам у гэтага страшнога й цынічнага акупанта.

Азьвярэлыя крамлёўскія апрычнікі не задавальняюцца пры гэтым адным простым забойствам.

Перад забойствам сьвятара — катаваньнямі змушаюць яго публічна, перад народам вырачыся Бога, ганьбіць Яго й самога сябе.

Перад зьнішчэньнем пісьменьніка, паэты, вымушваюць зь яго песьні славы тыранам сваім.

Перад „ліквідацыяй" палітычнага ці грамадзкага дзеяча вырываюць у яго паклёпы на сябе самога, як на бязыдэйнага ды прадажнага агента - шпіёна, „дывэрсанта" чужых дзяржаваў.

Заўсёды перад фізычным зьнішчэньнем чалавека намагаюцца як мага спаганіць і зьнішчыць душу яго.

Закаваўшы гэтак у цяжэйшыя за царскія кайданы воляльюбны Беларускі народ, ізаляваўшы Яго ад вольнага сьвету, савецка-камуністычная прапаганда цынічна крычыць пра вясёлае, шчасьлівае, радаснае жыцьцё Яго ды бязьмежную ўдзячнасьць за гэта свайму апякуну — „вялікаму рускаму народу", „мудрай камуністычнай партыі". Прысвойваючы сабе вынікі катаржнае працы беларускага работніка, селяніна, дасягненьні беларускага генія ў навукова-дасьледчай і творчай працы для свае любае зьняволянае Бацькаўшчыны, акупант змушае пяяць хвалу таму-ж „вялікаму" геніяльнаму рускаму народу.

48 год Ты цярпеў і цярпіш, Беларускі народзе, нячуваны яшчэ ў гісторыі тэрор, зьдзек і паняверку над сабой. Нявымоўныя мукі фізычныя й маральныя зносіш Ты ад тыранаў сваіх. Але ў гэтым, Народзе, і веліч гэраізму Твайго. Падбіты фізычна, Ты не зламаўся духова, маральна.

Зьняволеныя паэты й пісьменьнікі, прарокі Твае, ці раз выбухалі гордым і сьмелым бунтарствам супраць панявольніка свайго. Адважная моладзь Твая ці раз хапалася зброі на ката Твайго.

Паўстагодзьдзя ўжо будзе зараз, як упалонены мужны ваяр, застаешся Ты ў веры й пэўнасьці ў нямінучасьці вызваленьня свайго.

Беларускі народзе!

У дзень 50-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі Рада й Урад Беларускае Народнае Рэспублікі горача вітае Цябе й заклікае й надалей захоўваць сілу духу, станоўкасьць і мудрасьць.

Ты ведаеш добра, Народзе, што Ты не адзін цяпер, што ёсьць у Цябе верныя саюзьнікі, гэтак-жа ўпалоненыя, тым-жа тыранам зьняволеныя іншыя народы.

Ты ведаеш, што дзесяткі тысячаў сыноў і дачок Тваіх на выраі ў вольным сьвеце — верныя запаветам Тваім.

Ведай-жа, што й цэлы вольны сьвет сяньня што далей, то больш прасякаецца спачуваньнем і спагадай Табе, усё мацней праймаецца ненавісьцяй да тырана Твайго — ворага чалавецтва ўсяго.

Ты ведаеш, што Тваё законнае прадстаўніцтва — Рада й Урад Беларускае Народнае Рэспублікі — 48 год верна й непахісна трымае ў вольным сьвеце ў руках сваіх штандар волі — незалежнасьці Твае.

Будзь пэўны, што Рада БНР, як адзіны праўны, адзіны законны носьбіт сувэрэнных правоў Тваіх, ніколі ні перад кім не скапітулюе й нікому не перадасьць штандару Твайго, апрача Цябе, Беларускі Народзе.

ЖЫВЕ БЕЛАРУСКІ НАРОД
У ЗМАГАНЬНІ!
ЖЫВЕ ВОЛЬНАЯ
Й НЕЗАЛЕЖНАЯ
БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ
РЭСПУБЛІКА!

Сакавік 1968 г.
у Нью-Ёрку

## АГУЛЬНЫ ГАДАВЫ СХОД БАЗА Ў НЬЮ ДЖЭРЗІ

У нядзелю 28 студзеня адбыўся Агульны Гадавы Перавыбарны Сход Аддзелу БАЗА ў Нью Джэрзі.

Сход адчыніў і запрапанаваў прысутным ушанаваць хвілінай цішыні адыйшоўшых у вечнасьць сяброў старшыня ўступаючай управы сп. С. Гутырчык. У прэзыдыюм Сходу былі выбраныя: сп. Ф. Родзька — старшынём, д-р В. Васілеўскі сакратаром. На прапанову аднаго з прысутных у ганаровы прэзыдыюм былі запрошаныя прысутныя на Сходзе старшыня Галоўнае Управы БАЗА сп. Ул. Курыла й найстаршая сяброўка арганізацыі Матушка Ф. Войтэнка.

Із справаздачы сяброў управы было відаць, што за мінулую кадэнцыю вялася ажыўленая грамадзкая дзейнасьць як унутры арганізацыі, гэтак і вонках яе. Асабліва гэта далося заўважыць зь фінансавай справаздачы. Даходы з розных культурных і таварыскіх імпрэзаў перавысілі 1.000 даляраў, тады калі ранейшымі гадамі гэтыя даходы ніколі ня перавышалі пары сотняў даляраў.

Пасьля справаздачы Кантрольнае Камісіі й дыскусіі над справаздачамі было пастаноўлена прызнаць уступаючай управе абсалюторыюм з падзякаю.

У новую ўправу Аддзелу БАЗА выбраныя: С. Гутырчык — старшыня, Б. Даніловіч і П. Швэд — віцэ-старшыні, інж. Ч. Ханяўка і Я. Азарка — скарбнікі, В. Стома — сакратар у беларускай мове, У. Сьліўка — сябра ўправы, Т. Януш — старшыня Жаноцкай Сэкцыі. Апрача гэтага, на месца д-ра Ул. Бакуновіча, які выяжджае зь Нью Джэрзі, выбраны сакратаром у ангельскай мове д-р В. Васілеўскі. Рэфэрэнтам Вонкавых дачыненьняў выбраны сп. В. Дубяга.

На заканчэньне сп. Ул. Курыла прачытаў вельмі цікавы рэфэрат „Разьвіцьцё амэрыканскай атамнай бомбы".

Сход закончыўся прапяяньнем усімі прысутнымі беларускага нацыянальнага гімну.

**В. С.**

*Нашага найбліжэйшага Супрацоўніка Высокапаважанага*
*ДОКТАРА ВІНЦУКА ЖУК-ГРЫШКЕВІЧА*
*сардэчна вітаем з 65-мі ўгодкамі ад Ягонага нараджэньня, што споўніліся 10-га лютага сёлета, і шчыра зычым Яму добрага здароўя, памыснасьці й вытрываласьці ў Ягонай далейшай дзейнасьці на карысьць Бацькаўшчыны!*

Рэдакцыя газэты „БЕЛАРУС"

### СМАЛЕНШЧЫНА Й БРАНШЧЫНА — БЕЛАРУСКІЯ ЗЕМЛІ

На Захадзе нядаўна сталася ведамым пра пэтыцыю ад украінскага савецкага пісьменьніка Сьвятаслава Каравайскага да Старшыні Савету Нацыянальнасьцяў Вярхоўнага Савету СССР. У пэтыцыі кажацца пра перасьлед і дыскрымінацыю нацыянальных мяншыняў у Савецкім Саюзе. Згадваюцца ў ёй і крыўды, учыненыя Беларусам. У пэтыцыі чытаем наступнае:

„Дыскрымінацыя некаторых нацыянальнасьцяў выявілася і ў 'памылках' пры праводжаньні межаў нацыянальных рэспублікаў. Прыкладам, вялікія часткі Смаленскае й Бранскае вобласьцяў, заселеныя Беларусамі, ня былі ўлучаныя ў Беларускую ССР".

Дакумэнт гэты датаваны 10 красавіка 1966 году, а апублікаваны нядаўна ў выдаваным у Нью-Ёрку часапісе "The New Leader" за студзень сёлета (б. 15).

Аўтар пэтыцыі, Сьвятаслаў Каравайскі, бяз суду быў высланы ў канцэнтрацыйны лягер у ваколіцы Поцьмы Мардоўскае АССР. Сваю пэтыцыю аўтар пісаў, будучы ўжо зьняволеным.

### ВАСІЛЬ БЫКАЎ ІЗНОЎ ПАД АТАКАЙ

Уплывовая амэрканская газэта „Крышчэн Саенс Монітор" падала 2 лютага сёлета новую вестку пра беларускага савецкага пісьменьніка Васіля Быкава. У сьвежым нумары часапісу „Новый мир" (тыраж 141.700 экз.) зьявіўся артыкул Васіля Быкава, аўтара кантравэрсійнае аповесьці „Мёртвым не баліць". Між іншага, у органе савецкіх збройных сілаў, газэце „Красная звезда", як падае „Крышчэн Саенс Монітор", быў апублікаваны нядаўна нагон на Валіся Быкава збоку ген. Аляксея Епішава, начальніка армейскіх палітычных органаў. У часапісе „Новый мир" Васіль Быкаў выказаўся пра аповесьць расейскага савецкага пісьменьніка Салжаніцына „Адзін дзень у жыцьці Івана Дзянісавіча", як пра „вельмі прыгожую кніжку". Зрабіў гэта Васіль Быкаў якраз у часе, калі Салжаніцын быў „пад карантынам", як схарактарызаваў партыйную няласку да Салжаніцына маскоўскі карэспандэнт італьлянскае камуністычнае газэты „Паэзэ Сэра".

### ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ

**Галоўная Управа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, у цесным супрацоўніцтве з Акруговай Управай БАЗА ў Нью Ёрку ды Управамі Аддзелаў БАЗА ў Нью Джэрзі й Лонг Айлэнд, ладзіць юбілейнае сьвяткаваньне 50-ых угодкаў Абвешчаньня Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі векапомным Актам 25-га Сакавіка 1918 году.**

**Сьвяткаваньне адбудзецца ў нядзелю 24-га сакавіка 1968 г. й пачнецца ўрачыстай Службай Божай у Саборы імя сьв. Кірылы Тураўскага, 401 Атлянтык эвэню ў Брукліне, з удзелам Я. Пр. Архіяпіскапа Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў Амэрыцы Уладыкі Васіля.**

**А. 2:00 гадзіне папаўдні ў гатэлі Білтмор, рог Мэдысон эвэню й 43-яй вуліцы ў Мэнгэтэне, пачнецца Юбілейная Акадэмія, у афіцыйнай часткі якое выступяць, між іншымі: Прэзыдэнт Рады БНР інж. Мікола Абрамчык, кангрэсмэны й іншанацыянальныя прадстаўнікі ды прыхільнікі Беларусаў у Амэрыцы. Рыхтуецца багатая мастацкая праграма з удзелам маладых беларускіх артыстычных сілаў на эміграцыі.**

**Усё беларускае грамадзтва Вялікага Нью Ёрку й аколіцаў гэтым ветліва запрашаецца прыняць актыўны ўдзел у сьвяткаваньні й гэтым дружна падтрымаць гэтае важнае мерапрыёмства, дэманструючы нашую вернасьць ідэялу Вольнай і Незалежнай Беларусі.**

### У КАНТАКТНАЙ КАМІСІІ ПАРЫСКАГА БЛЁКУ

У аўторак 16 студзеня ў залі Украінскага Навуковага Інстытуту ў Нью Ёрку адбылося паседжаньне Кантактнай Камісіі Лігі Вызваленьня Народаў СССР (Парыскага Блёку) у Амэрыцы. Гэтае паседжаньне адбылося ў прысутнасьці Прэзыдэнта Рады БНР сп. Міколы Абрамчыка й Прэзыдэнта Украінскай Нацыянальнай Рады сп. Міколы Лявіцкага, якія нядаўна прыбылі з Эўропы й знаходзяцца часова ў Амэрыцы. У паседжаньні прынялі ўдзел прадстаўнікі нацыянальных цэнтраў Беларусі, Украіны, Народаў Каўказу, Туркестану й Татара-Башкірыі. Апрача прэз. М. Абрамчыка, ад Беларусаў прыняў удзел у паседжаньні сябра Кантактнай Камісіі д-р Ст. Станкевіч.

На паседжаньні была шырака абмеркаваная сучасная міжнародная палітычная сытуацыя, а таксама намечаны плян працы Кантактнай Камісіі на бліжэйшую будучыню.

Пасьля паседжаньня ўкраінскія гаспадары запрасілі ўсіх прысутных на сьціплы пачастунак, падчас якога працягваліся гутаркі пра ўзаемнае супраціўніцтва сяброў Парыскага Блёку.

## АДГУКНУЛІСЯ, ДЫ НЯ ЎСЕ...

**На нашыя заклікі й просьбы прыйсьці з матарыяльнай дапамогай газэце „Беларус", надрукаваныя ў двух папярэдніх нумарох газэты й разасланыя некаторым нашым Суродзічам індывідуальныя лісты ў гэтай справе, адгукнуліся шмат якія нашыя Чытачы й Прыяцелі ў Чыкага, Дэтройце, Каліфорніі, Кліўлендзе й Нью Джэрзі, а Управа Аддзелу БАЗА ў Нью Джэрзі пастанавіла цалком пакрыць, ужо трэйці раз, кошты аднаго нумару газэты. Адгукнуліся й некаторыя нашыя Суродзічы, што жывуць расьцярушана ў іншых штатах Амэрыкі. Усім ім складаем на гэтым месцы нашую шчырую падзяку.**

**Нажаль, бадайшто зусім не адгукнуліся на нашыя заклікі й індывідуальныя просьбы Беларусы Нью Ёрку. Мы ўсё-ж ня трацім надзеі, што адумаюцца й яны ды прыдуць з належнай матарыяльнай дапамогай газэце, якая сяньня, будучы паважна загрожанай у сваім далейшым выхадзе, моцна патрабуе гэтай дапамогі.**

**Мы таксама маем надзею, што й тыя нашыя Суродзічы зь іншых асяродкаў, якія маюць поўную магчымасьць дапамагчы газэце, але дагэтуль яшчэ не парупіліся выслаць сваёй дапамогі, зробяць гэта ў найбліжэйшым часе.**

**Выдавецтва „Беларуса"**

ВЕСТКІ з КАНАДЫ

BYELORUSSIAN CANADIAN ALLIANCE
524 St. Clarence Avenue
Toronto 4, Ont.
Матэрыялы да друку, ахвяры й падпіску просім прысылаць на адрыс:
Dr. R. Zuk
54 Mary Street
Barrie, Ont. Tel. 728-7581
Advertising rate — $ 1.25 per column inch.

# ДАРАГІЯ СУРОДЗІЧЫ БЕЛАРУСЫ!

1968 год ёсьць юбілейным годам Беларускай Народнай Рэспублікі. 50 год таму назад — 25 сакавіка 1918 году ў сталіцы Беларусі Менску была абвешчаная незалежнасьць нашай Рэспублікі, чым выяўлена была воля беларускага народу перад сьветам быць ні ад кога незалежным гаспадаром сваёй зямлі.

Расейскі камунізм зьнішчыў сваёй брутальнай сілай нашую сувэрэнную дзяржаву — Беларускую Народную Рэспубліку, але ня мог ён зьнішчыць волі беларускага народу быць незалежным. Таму ён мусіў стварыць гэтак званую БССР узамен яе. Але мы ведаем добра, што БССР ня ёсьць ані дзяржавай, ані сувэрэннай, ані беларускай. Яна ёсьць маскоўскай хвалышыўкай дзяржаўнасьці. Яна створаная маскоўскімі камуністымі па тое, каб, пад пакрыўкай нібы „незалежнасьці", забіць волю беларускага народу да сапраўднай дзяржаўнасьці, і зрусыфікаваць яго.

Аднак бальшавіцкія намаганьні спатыкаюць нязломны супраціў. За 50 год незалежніцкая ідэя ня толькі не памерла ў беларускім народзе, але расьце й мацнее. Наш народ робіць усё, што магчыма ў вабставінах бальшавіцкага таталітарнага рэжыму, каб даць адпор наступу русыфікацыі, каб узбагаціць беларускую культуру, каб захаваць беларушчыну, каб разбудаваць эканамічны дабрабыт і ўнезалежніць яго ад Масквы.

І мы — беларуская эміграцыя — можам шмат што зрабіць, каб дапамагчы нашаму народу ў яго імкненьні да незалежнасьці, бо мы жывём у вольным сьвеце і можам свабодна весьці нацыянальную работу, якая там забароненая. Мы, дзеці сваёй Маці Беларусі, да грабавое дошкі ня можам забыцца пра наш абавязак у дачыненьні да Яе. Яна на нас чакае, каб мы працай сваёй памаглі Ёй ськінуць путы няволі, наложаныя ворагам, які высысае зь Яе ўсе сокі й аграблівае з найбольшых нацыянальных скарбаў.

Хай у гэтым юбілейным годзе нашы сэрцы й думкі ськіроўваюцца да нашае супольнае Маці Беларусі каб мы маглі, кажны з нас, даць сваё зерне працы ў нацыянальна-грамадзкую справу. Хай кажны з нас стараецца быць карысным вязьмом у беларускай арганізацыі, а тыя, што незарганізаваныя — хай уступяць у арганізацыю.

Хай кажны з нас пастановіць, што ў гэтым годзе будзе старацца кіраваць свае думкі й чыны на тое, каб мець наўвеце перадусім дабро беларускае справы, а не свае асабістыя амбіцыі, выгады, прыватныя сымпатыі, ці антыпатыі.

Хай кажны з нас будзе ахвярны для нашай справы, хай падтрымае беларускую прэсу й кніжку.

**Хай кажны з нас прыйме ўдзел** у сьвяткаваньні залатога юбілею беларускай дзяржаўнасьці ў дзень 25-га сакавіка й дапаможа ў арганізацыі гэтага сьвяткаваньня.

Выканайма свой грамадзкі й нацыянальны абавязак усе як адзін!

**Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады**

### ЯЛІНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

14 студзеня 1968, у дзень царкоўнага Новага Году, у парахвіі Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Таронта адбылася традыцыйная дзіцячая ялінка. Ладзілі яе супольным высілкам беларуская суботняя школа пры БНА пад кіраўніцтвам сп-ні В. Пашкевіч і Царкоўны Камітэт пад старшынствам сп. М. Жыбуля.

На ўступе праграмы Язэп Пітушка (сын) прадэклямаваў верш Ларысы Геніюш „Новы год ідзе крокам бадзёрым . . .", пасьля чаго пялі калядкі — „Ночка цуд", „Саўка ды Грышка", ды зноў была дэклямацыя — верша Васіля Віткі „ППШ", (Птушыная Пачатковая Школа) у выкананьні Эвы Пашкевіч. Далей пашоў агульны дзіцячы карагод навакол ялінкі, ды ўрэшце на запросіны супольным сьпевам усіх дзяцей „Дзед Мароз на санках белых ты да нас прыдзі, прыдзі" — паказаўся сам Дзед Мароз. З набожнай боязьню шапталі малышы Дзеду Марозу свае йімёны і ўзамен атрымоўвалі ад яго ня толькі камплімэнты, але й вялікія пачкі, шчодра выпаўненыя рознымі ласункамі.

За пасьпяховасьць імпрэзы належыцца асаблівая падзяка спадарству Барысу й Шуры Сладкоўскім, з году ў год нястомным памагатым Дзеда Мароза ў падрыхтаваньні падарункаў і пачастункаў для дзяцей, Алесі Сладкоўскай і Крысі Сьцепановіч за іх помач, а перадусім настаяцелю царквы а. Я. Кузьміцкаму за яго прысутнасьць і помач у сьпевах.

Усім-жа бацьком належыцца шчырая падзяка й прызнаньне за тое, што, ня гледзячы на дождж і страшную галаледзіцу ў часе навальніцы, прыехалі зь дзяцьмі на ялінку дружнай грамадой.

**В. Пашкевіч**

*Яго Міласьці*
*Старшыні Канадзкай Рэдакцыі „Беларуса"*
*Доктару Вінцэнту Жук-Грышкевічу.*

*Высокапаважаны й Дарагі Доктару!*

*У дзень 65-ых угодкаў ад Вашага нараджэньня, што спаўняюцца 10-га лютага сёлета, прыміце ад нас нашыя сардэчныя прывітаньні й найшчырэйшыя пажаданьні здароўя, асабістага шчасьця, сілаў, вытрываласьці й плённай працы на нацыянальна-грамадзкай ніве яшчэ на многія гады!*

*Рэдкалегія „ВЕСТАК З КАНАДЫ"*

# НОВЫ ГОД СТАРОГА СТЫЛЮ Ў ТАРОНТА

1968 год паводля старога стылю пачаўся злосным зімовай бурай, што параліжавала жыцьцё мільённага гораду, блякавала дарогі й чуць не адрэзвала яго ад рэшты сьвету. Ад 20-ці год гэта было найгоршае зімовае надвор'е.

Дый дарма, Новы Годзе, так злуешся! Ці-ж забыліся мы на цябе?! Ці-ж ня сустрэлі цябе мы палюдзку?

У Беларускім Рэлігійна-Грамадзкім Цэнтры, 13-га студзеня па-новаму, а 31-га сьнежня па-старому, вечарам нерэальнае сьвятло казкі падала на разгуляныя й разагрэтыя скокамі пары. Традыцыйна багаты стол „шчадрухі" мігацеў і гнуўся ад серабра, крышталу й прысмакаў. Лявоніха напамінала моладасьць і Бацькаўшчыну. „Мы бойкая моладзь" у бойкім выкананьні ўжо не зусім „бойкае моладзі", грэла сэрца дзіўным, чуць не сьвятым цяплом. Танец, у якім усё гарманізуе: музыка, рухі й нутраное адчуваньне рытму й плаўнасьці дае пачуцьцё эстэтычнага задаваленьня. Гэткі танец ня мучыць, ён будзіць лірычную мэлёдыю, што без выражэньня памірае ў душы. Толькі ня час тут на рэфлексыі. Грыміць полька! І то такая нашая беларуская полька, што хоць танцоры чуць кранаюцца падлогі, а ўсё-ж зь яе аж трэскі ляцяць!

А 12-ай гадзіне ў цэрквах ня білі званы . . . Толькі Старшыня Задзіночаньня Беларускіх Жанчын Канады, што ладзіла гэтую імпрэзу, вітала з Новым Годам ды жадала, каб быў ён нам усім добрым і шчодрым.

У Цэнтры йзноў нямала людзей. Учора слаўна гулялі — сяньня трэба прыбраць, каб не казалі: „Ці тут сьвіньні елі, ці шляхта папасвала". Добра разам пагуляць, але й ня блага грамадой папрацаваць. Ізноў усё чыста й добра, і ялінка мігціць электрычнымі сьвечкамі.

А надварэ злуецца ўжо сьнежная завея. Злуйся — ня злуйся, Новы Годзе, але будзь для нас шчодрым і добрым!

**Раіса Ж.-Г.**

### ЯЛІНКА Ў З.Б.К.

21-га студзеня адбылася ў Беларускім Рэлігійна-Грамадзкім Цэнтры ў Таронта ялінка для дзяцей. Арганізавала імпрэзу З.Б.Ж.К. Галоўнымі арганізатаркамі былі сп-ні: Надзя Барановіч, Лена Кулеш і Марыя Ганько. На праграму складаліся агульныя, груповыя й салёвыя сьпевы, дэклямацыі, ігра на пяніне, Дзед Мароз з падаркамі й пачастунак для дзяцей за сталом. У праграме бралі ўдзел дзеці рознага веку, пачынаючы ад 2-3-гадовых Андрэйкі Касьцюкевіча й Рыгоркі Мікалаева, а канчаючы на падростках. Імпрэза была добра сарганізаванай ды прадстаўляла сабой вялікае сьвята й не абыякую падзею для нашых дзяцей. Ды ці толькі дзяцей!...

# ФОНД 450-ЫХ УГОДКАЎ БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

Фонд гэты быў заснаваны 9 красавіка 1967 г. Задзіночаньнем Беларускіх Жанчын Канады дзеля адзначаньня Скарынавага юбілею. Галоўнай мэтай Фонду было фінансаваньне ладжанай Згуртаваньнем Беларусаў Канады Выстаўкі старога беларускага друку ў гонар 450-ых угодкаў беларускага друку й стагодзьдзя Канады.

Ніжэй зьмяшчаем сьпіс ахвяраў і выказваем нашую шчырую падзяку ахвярадаўцам:

1. Д-р Жук-Грышкевічы В. і Р. — 100 дал., 2. З.Б.Ж.К. — 58,66 дал., 3. Д-р Рагулі Б. і Л. — 50 дал., 4. Д-р Скурат Я. — 20 дал., 5. сп. Чорны Я. — 10 дал., 6. сп. Баран Я. — 10 дал., 7. сп. Каранеўскі К. — 10 дал., 8. сп. Жылік А. — 10 дал., 9. сп. Ганько М. — 6,73 дал., 10. сп. Шуст М. — 5 дал., 11. сп. Жураўскі Л. — 5 дал., 12. сп. Маркевіч А. — 5 дал., 13. мгр. Грыцук А. — 5 дал., 14. сп. Кулеш М. — 5 дал., 15. сп. Лішчонак Б. — 2 дал., 16. сп. Карыба Л. — 2 дал., 17. сп. Пашкевіч М. — 1,50 дал., 18. сп. Кірка Б. — 1 дал., 19. сабрана пры ўваходзе на Выстаўку — 36,65 дал.

**Усяго разам — 343,54 дал.**

Да запрапанаванае на пачатку сумы 500 даляраў у нас не хапае 156,46 дал. Калі-б хто із суродзічаў хацеў яшчэ зрабіць свой уклад у Фонд, мы былі-б вельмі ўдзячныя.

Ахвяры просім высылаць на імя й адрыс скарбніка З.Б.Ж.К.:

Mrs. N. Filjanovič
75 Deforest Rd.
Toronto 3, Ont. Canada.

**Управа З.Б.Ж.К.**

# Слава Украіне!

Вясна 1917 году. У нашай хаце ў малым мястэчку Віленшчыны дзьверы амаль не зачыняюцца ад прыходзячых і выходзячых жаўнераў. У нас кватаруе канцылярыя Радыятэлеграфнага Дывізіёну, а ў мястэчку стаіць штаб арміі. Днём у канцылярыі бывае шмат розных інтэрасантаў, а вечарам прыходзяць сябры да жаўнераў, што сьпяць у нашай хаце.

Фронт стаў на лініі Дзьвінск, вазёры Мядзел — Нарач, Баранавічы ўжо з год таму й ня рухаецца. Ад нас да фронту па простай лініі каля 30 кілямэтраў. Мы ў прыфрантовай паласе, якая даслоўна заваленая расейскім войскам.

Жаўнеры й мясцовае насельніцтва звыкліся з прыфрантовай сытуацыяй і, здавалася-б, забыліся пра вайну. Яны занятыя цяпер рэвалюцыяй, якая выбухла тры месяцы таму, іх цікавіць, што будзе з Расеяй, што будзе зь іх краінамі, які лёс іх саміх. Амаль кажны дзень ёсьць мітынг на рынку або ў тэатральным бараку. Прамаўляюць прадстаўнікі ўсіх партыяў, а найчасьцей прадстаўнікі часовага ўраду Керанскага й вайсковых арганізацыяў. Усе за рэвалюцыю, усе за перабудову Расейскай Імпэрыі й кажны па своему. Выступаюць Сацыялдэмакраты-меншавікі, сацыялістыя рэвалюцыянэры, Кадэты й беспартыйныя. Бальшавікоў яшчэ ня чуваць, яны зьявяцца пазьней. Пасьля мітынгу адбываюцца дыскусіі й спрэчкі, пераносяцца на вуліцу, у хаты, дзе кватэруюць жаўнеры, у цывільнае насельніцтва. Усе дыскутуюць, усе спрачаюцца, усе хочуць сваіх парадкаў, усе карыстаюць із свабоды; „Расейскай турмы народаў" больш няма, яна разваленая. Усе перажываюць рэвалюцыю — кажны па своему.

У дыскусіях пачуеш ня толькі расейскую, але й іншыя мовы: беларускую, украінскую, польскую й мовы Каўказу. Дыскутуюць ня толькі аб Расеі, але й аб Польшчы, Украіне, Беларусі, Каўказе, Туркестане. Чуюцца такія словы, як аўтаномія, фэдэрацыя, незалежнасьць, самастыйнікі, сувэрэннасьць, „едзіная недзелімая".

Немцы абвесьцілі, што пасьля вайны прызнаюць незалежнасьць Польшчы, і часовы ўрад Керанскага какетуе Палякаў, а Фінляндыя ўжо аддзяляецца. Ходзяць чуткі аб арганізацыі польскіх легіёнаў. Але й чуваць гутаркі аб самастойнасьці Украіны, Беларусі, Каўказу, Туркестану. Беларусы, Украінцы, Палякі часта дэманстрацыйна гавораць на сваіх мовах — навет вайсковыя.

Дыскусіі адбываюцца й у нашай хаце. Жаўнеры, што працуюць у канцыялярыі й жывуць у нас, усе з асьветай, ад іх можна пачуць шмат чаго цікавага і даведацца шмат чаго новага. Гэта тры Украінцы й тры Беларусы. Яны гавораць між сабой кажны пасвойму й добра разумеюцца. І я іх добра разумею. Украінцы для мяне не навіна, іх столькі пераваліласяпраз нашае мястэчка: і Кіеўскіх, і Падольскіх, і Палтаўскіх, і Валынскіх, і Харкаўскіх. Спачатку я іх не разумеў, але з часам прыслухаўся, прывык і пачаў разумець.

Дысананс у дружню сям'ю нашых кватарантаў уносіць іх начальнік Шчукін. Ён жыве ў майго дзядзькі. Ён Расеец. Ён ня церпіць самастыйнікаў і высьмейвае ўкраінскую й беларускую мову. Ён за „едзіную недзелімую Расею". Між ім і нашымі кватарантамі ёсьць толькі афіцыйнае супрацоўніцтва й субардынацыя, як да старэйшага. Па-за службай Шчукін цяпер для іх ужо не начальнік, але й ня сябра, бо занадта самапэўны, неталерантны, уладалюбны й прыдзіра. Ён ніяк ня можа пагадзіцца, што пасьля рэвалюцыі ўзьнялі голас розныя нацыянальнасьці й дабіваюцца аддзяленьня ад Расеі. Адсюль войстрыя дыскусіі зь ім і спрэчкі. Вось як цяпер чую такую спрэчку. Шчукін нэрвуецца й крычыць сваім начальніцкім тонам. — „Прыпэр самопэр" — кідае ён прыдуманую насьмешку над украінскай мовай, нібы паказваючы сваю вышэйшасьць. Да Шчукіна далучаюцца іншыя Расейцы — частыя бывальцы ў канцылярыі, яны таксама супраць „расчленіцелей Рассіі" і памагаюць яму перамагчы ў спрэчцы самастыйнікаў. Але нашыя кватаранты не паддаюцца, яны спакойна даводзяць карысьць аддзяленьня, а на моўныя вульгарызмы Шчукіна вытыкаюць расейскія мацюгі й саратаўскія частушкі.

Раптам чуецца гучнае прывітаньне: „Слава Украіне"! і адказ нашых кватарантаў: „Украіне Слава!" Гэта прыйшоў сябра нашых кватарантаў, заядлы самастыйнік Гуменюк, які вельмі любіць спрачацца. У канцылярыі робіцца шумна. Ужо чуваць зычны голас Гуменюка ў спрэчцы, якая, відаць, заходзіць далёка, бо ўспамінаюцца такія імёны, як Хмяльніцкі, Мазэпа, Пётр Вялікі, Кацярына, Каліноўскі, Мураўёў Вешацель, Азэф, ды мяшаюцца такія эпітэты, як галаварэз, патрыёта, здраднік, гэрой, крывапіўца, узурпатар. Спрэчка ўжо перайшла ў сварку, каб, чаго добрага, бойка ня вынікла!?

Але тут зазваніў тэлефон, хтось падняў слухаўку, у хаце зрабілася ціха. Спрэчка перарвалася. Іншым разам спрэчку перарываюць інтарасанты ахвіцэры.

А як западае шэрая гадзіна й наступае вечар — тады чутны спакойныя й разважлівыя гутаркі: — За каго мы ваюем, за каго гібеем у акопах? За свае народы, за свае правы? Не, за матушку Расею мы кроў праліваем, якая высысае з нас сокі, за яе пыху й дабрабыт. Але мы аддзелімся ад Расеі, тады няхай маскалі пакукуюць і пакажуць, што ўмеюць, а награбіўшы чужых земляў і дабра, лёгка крычаць аб сваёй велічы й моцы, — гаворыць Украінец — здаецца Паўлэнка. — Але, але, аддзяліцца ад Расеі мы мусім, кажа Беларус Дубавік, бо якая-б яна ня была Расея, яна ўсёроўна будзе думаць пра сябе, а не пра нас. Аднак аддзяліцца будзе нялёгка. Як усе народы аддзеляцца, дык з Расеі мала што застанецца, яна зыйдзе на шэры канец. Таму Расейцы будуць старацца ўсімі сіламі не дапусьціць да аддзяленьня іншых народаў. — Можа тады дабівацца спачатку аўтаноміі, а пазьней аддзяляцца? — дакідае, здаецца, Садоўскі. — Не, толькі аддзяліцца, і то як найхутчэй, — гарачыцца другі Украінец, — хутчэй, пакуль расслабленая вайной і рэвалюцыяй Расея не зьбярэцца із сіламі ды зноў ня возьме нас за горла. — І зажывём-жа мы тады, зажывём, як аддзелімся, — вымаўляе з асалодай павольны Беларус Валевіч, здаецца. Але тут адчыняюцца дзьверы й чуецца прывітаньне: „Слава Украіне!". Прыйшоў Гуменюк. Гутарка зыходзіць у другі бок. Чуваць пытаньні — ці разасланы паведамленьні аб украінскім вайсковым зьезьдзе? Ці прыйшоў адказ ад Кавалэнкі зь Сібірскага палка? Тры Беларусы адсоўваюцца й таксама гавораць пра арганізацыйную перапіску. Вельмі часта ўспамінаецца Менск. Нарады чаргуюцца з прыцішаным сьпевам украінскай ці беларускай песьні. Пад гэты сьпеў я засынаю.

Так у нарадах, дыскусіях, спрэчках, сьпевах і роздумах праходзяць дні, тыдні, месяцы — у штабах, у вайсковых аддзелах, у вакопах на фроньце, у сялянскіх хатах і ў гарадох. Дасьпяваюць вялікія думкі. Расейская Рэвалюцыя ўнядраецца ў рознанацыянальных масах жаўнераў і цывільных, расплываецца па нацыянальных асяродзьдзях, у якіх творацца нацыянальныя рэвалюцыі. Клічы: „Слава Украіне!", „Хай жыве Беларусь!" западаюць глыбока ў народную сьведамасьць. Групавыя дыскусіі й нарады па ўсім вялізарным абшары зьліваюцца ў большыя зборышчы, канфэрэнцыі й зьезды. Узрастаюць нацыянальныя рэвалюцыі, крышталізуецца незалежніцкая ідэялёгія, крэпне воля народаў да самастойнага жыцьця аж да паўнейшага выяўленьня на вялікіх усенародных зьездах — кангрэсах, на якіх паўстаюць такія несьмяротныя акты, як абвешчаньне незалежнасьці Украінскай Народнай Рэспублікі 22 студзеня 1918 году і абвешчаньне незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка 1918 году.

Гэтым вялікім Актам прысьвячаю свой маленькі ўспамін з нагоды 50-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Украіны. УКРАІНЕ СЛАВА!

**В. Жук-Грышкевіч**

*УРАЖАНЬНІ З ПАДАРОЖЖА*

# 4. СУСТРЭЧА З БАРБАРАЙ ТАПОРСКАЙ

На адным з прадмесьцяў Мюнхэну, ціхім і зялёным, жыве ведамая польская пісьменьніца Барбара Тапорская. Сталася неяк так, што, жывучы даўгі час у Мюнхэне, мы пасябравалі.

Барбара Тапорская перш-наперш паэтка, прыгожыя ейныя вершы часта друкаваліся й друкуюцца ў польскім лёнданскім тыднёвіку „Вядомосьці". У 1966 годзе пісьменьніца спрабавала пісаць прозай. Ейны першы раман „Сёстры" выйшаў выдатным творам і, як такі, быў адзначаны літаратурнай узнагародай тыднёвіка „Вядомосьці", як найлепшы літаратурны твор польскага эміграцыйнага пісьменства за 1966 год. Узнагарода гэтая (уфундаваная дзецьмі князя А. Чартарыскага, таму й носіць ягонае імя) была прызнаная Тапорскай 8 ліпеня летась пасьля доўгае дыскусіі сяброў журы над творамі 18-ёх лепшых польскіх пісьменьнікаў на эміграцыі, прадстаўленых да ўзнагароды.



**Барбара Тапорская—першая справа**

У ліпені летась, адведваючы Мюнхэн, давялося мне ўзноў спаткацца з Барбарай Тапорскай. Дазволю сабе выкарыстаць гэтую нагоду, каб выясьніць чытачом, чаму асоба гэтае польскае пісьменьніцы й публіцысткі ня можа быць абыякавай для нас Беларусаў, чаму ейныя выступленьні ў друку ў нашай абароне павінны быць усім нам ведамыя й належна ацэненыя.

Барбара Тапорская, жывучы перад вайной даўгі час у Вільні, добра ведала беларускую праблему пад Польшчай, цікавілася ёю й яе вывучала. Найлепшым гэтага довадам можа паслужыць ейнае выдатнае публіцыстычнае выступленьне ў 1962 годзе ў тых-жа лёнданскіх „Вядомосьцях" зь вялікім артыкулам „Польская палітыка ў дачыненьні да Беларусаў". Праблемы, закранутыя ў гэтым артыкуле, ня страцілі сваёй актуальнасьці й сяньня.

Свой артыкул напісала Тапорская ў вадказ на апублікаваныя напады на яе спадаром Навіцкім за ейнае выступленьне ў лісьце ў рэдакцыю з крытыкай дзейнасьці апошняга прэм'ера даваеннай Польшчы Славой-Складкоўскага. Ейны апанэнт Навіцкі, між іншым, пісаў: „Трэба было-б ёй (Б. Тапорскай — З. С.) пачуць, як Беларусы кулакі, вывезеныя бальшавікамі ў лягеры, із сьлязьмі ў вачох казалі, што пехатой пайшлі-б зь Сібіру пад панаваньне Польшчы".

Аўтарка ў сваім адказе даводзіць, што нельга рабіць вызнаваў з прыраўнаньняў. На ейную думку, трэба кіравацца пастулятамі этыкі, якія ў нашыя часы, нажаль, занядбоўваюцца на карысьць сярэдняй арытмэтычнай, што й становіць загрозу для сучаснае культуры. Яна кажа: „На нізе Сталін і Гітлер, увесрсе д-р Швайцар, і ў люстры злачынстваў двух першых прыглядаецца сабе сучасная каналія, каб падбадзёрыць сябе, што яна прыгажэйшая. Цяжка падумаць пра большы трыумф зла. І цяжка знайсьці больш паніжаючую абарону свайго народу, даводзячы, што несправядлівасьць і крыўды, якія былі тарнаваныя дзеля ўяўнае карысьці гэтага народу, ня перавышалі нормаў, устаноўленых чэкістымі й гэстапаўцамі".

„Палянізацыя ані ня лепшая за русыфікацыю, гэрманізацыю ані якую-небудзь іншую —ізацыю . . ." — вось асноўны этычна-маральны пастулят аўтаркі.

„Пілсудзкі насіўся быццам з фэдэрацыйнымі намерамі. Пярэчаць гэтаму факты, якія сам ствараў. Зь гістарычных крыніцаў ведаем, што бальшавікі былі гатовыя аддаць (Польшчы) Полацк і Барысаў і былі апаломленыя атрыманьнем Менску! . . . Або Пілсудзкі меў фэдэрацыйныя пляны, але быў такім ігнарантам у вайсковых, палітычных і псыхалягічных дачыненьнях, што, паміма свае волі, прайграў, або „нашую і вашую вольнасьць" зрадзіў, разьлічваючы на русыфікацыю Усходняе Беларусі й Украіны, што дапамагло-б яму палянізаваць заходнія іхныя часткі. Я асабіста ўважаю другую магчымасьць за больш абгрунтаваную".

„Палякі кажуць: Вільня была польская. Падобна-ж польскім быў Менск і Коўна . . . Зь гістарычнага гледзішча яна была сталіцай Літвы . . . была руская (у гістарычным значаньні слова, г. зн. беларуская — З.С.) і праваслаўная, . . але перадусім з рускім (г. зн. беларускім — З. С.) пісьмом, гэтай агульна вызнанай мэтрыкай ідэнтычнасьці й культурнай дасьпеласьці народу. Аж да канца дынастыі Ягайлавічаў беларуская мова была мовай дзяржаўных дакумэнтаў ня толькі ў Вільні, але й на Вавэлю. Аж да Другой сусьветнай вайны беларуская мова была моваю сялян, пачынаючы ўжо ад дзясятага кілямэтра за горадам.

Перапрашаю Чытачоў „Вядомосьцяў" за прыпамінаньне ім элемэнтарных ведаў на ўзроўні школьных падручнікаў, але ўся бяда ў тым, што ведаў гэтых ня было ў польскіх падручніках".

„Спадар Навіцкі піша, што разбурэньне старажытнай царкоўкі ў Маладэчыне было „хуліганствам", якога нельга абагульняць. Эй-жа! А гэныя больш за сотню цэркваў, спаленых на працягу колькі тыдняў улетку 1937 году, гэта што? Праўда, ведамкі аб гэтых шалёных вычынах „Озону" былі ў прэсе канфіскаваныя. Але ці выпадае Паляком засланяцца няведаньнем таго, што дзеялася на адкрытых пляцох і дарогах, а адначасна цьвердзіць, што ўсе Немцы мелі абавязак ведаць, што дзеілася за мурамі й дратамі іхных канцэнтрацыйных лягераў?..."

Пра перасьледваньне беларускага каталіцкага духавенства Тапорская піша: „У 1925 г. ксяндза Гадлеўскага арыштавалі за казані ў беларускай мове. У 1937 годзе ксёндз Талочка быў выселены зь Вільні за спавяданьне на беларускай мове, айцоў Марыянаў выселілі з Другі затое, што бальшыня зь іх была Беларусамі. Зьвінавацілі іх за нелегальнае навучаньне рэлігіі пабеларуску ў акалічных вёсках. Польшча зламала ўсе міжнародныя трактаты, якія забавязвалі яе шанаваць асноўныя грамадзянскія свабоды іншых веравызнаньняў і нацыянальнасьцяў . . ."

Аналізуючы пытаньне, чаму Палякі крыўдзілі Беларусаў, аўтарка піша: „Нашыя прэтэнсіі да нямецкага нацыяналізму зводзяцца да абурэньня, што Немцы ўжо нас залічылі да ніжэйшае расы, у той час, як мы бачылі гэтую расавую ніжэйшасьць толькі ў Беларусах, Летувісах, Украінцах і Расейцах. Немцы ўважалі гэрманізацыю за культурную місію, за дабро само ў сабе, мы-ж уважалі за гэткую місію й дабро . . . палянізацыю . . ."

Артыкул Барбары Тапорскай выклікаў быў ажыўленую дыскусію на бачынах „Вядомосьці" й наагул у польскай прэсе. Было шмат галасоў за й шмат супраць. Аўтарка атрымала вялікую колькасьць прыватных лістоў з пахвалаю за гэтае выступленьне. А некаторыя ў сваіх нападах адмаўлялі ёй навет польскасьці, тады калі Тапорская паходзіць зь ведамай польскай сям'і з цэнтральнай Польшчы. Зь Беларусаў у лістох у рэдакцыю „Вядомосьці" забралі голас К. Акула й Л. Галяк. На працягу 5-ёх месяцаў вялася ў прэсе дыскусія.

Прайшло цімала часу ад гэтага выступленьня Барбары Тапорскай у беларускай справе. Але, як яна мне піша ў вапошнім лісьце, „людзі яго памятаюць і йшчэ да сяньня атрымліваю лісты з падзякай за яго".

Разьвіталіся мы з Барбарай Тапорскай на вуліцы пасьля праведзеных шматлікіх незабыўных гадзінаў у Батанічным агародзе ў Мюнхэне. Дарогі нашыя разыходзіліся. Наш трамвай вёз нас на Пляц Чырвонага Крыжа ў цэнтр гораду, аўтабус Барбары Тапорскай вёз яе ў прыгарад, у ейную маленькую кватэру, дзе яна жыве із сваім мужам Язэпам Мацкевічам, выдатным польскім пісьменьнікам, аўтарам шматлікіх раманаў, і піша свае цудоўныя вершы, ідучы ў іх да праўды, хай сабе й павальнейшай сяньня, бо схвараванай хадою.

**З. Станкевіч**

## ДА ВЕДАМА БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДЗТВА

Выйшла з друку вельмі цікавая кніжка на ангельскай мове: ЭДУКЭЙШН ІН ДЭ СОВЕТ ЮКРАІН. Кніжка гэтая на аснове статыстычных дадзеных прадстаўляе праўдзіва русыфікатарскую палітыку бальшавікоў на Украіне. Яна зрывае маску з хлусьлівай бальшавіцкай прапаганды аб быццам справядлівым разьвязаньні нацыянальнага пытаньня ў Савецкім Саюзе. Кніжка гэтая вельмі вартасная для кажнага, хто цікавіцца нацыянальнай палітыкай Савецкага Саюзу. Для Беларусаў яна тым больш цікавая. Ня толькі таму, што сытуацыя ў Савецкай Украіне ў шмат чым падобная да сытуацыі ў Савецкай Беларусі, але й таму, што ў кніжцы прыводзіцца статыстыка, якая беспасярэдня ці пасярэдня датычыць Беларусі.

Аўтар кніжкі, Джон Коляпскы — Украінец, народжаны ў Канадзе. Па прафэсіі ён вучыцель сярэдняй школы й марксісты паводля пераканаьняў. У 1963 годзе ён паехаў у Савецкую Украіну на студыі ў Кіеве й прабыў там два гады. Цяпер жыве ў Таронта. Ягоная кніжка ёсьць вынікам двухгадовага пабыту ў Сав. Украіне й ягонай вучыцельскай практыкі. Больш кампэтэнтнага аўтара на такую тэму хіба што ня знойдзеш.

„Эдукэйшн ін дэ Совет Юкраін" выдаў Пітэр Мартэн Асосыейшн Лтд., у Таронта. Цана $ 2.50 у папяровай вокладцы й $ 5.00 у пераплёце. Замаўленьні просім скіроўваць на Канадыйскую Рэдакцыю „Беларуса".

## ЯК СТАЦЦА ГРАМАДЗЯНІНАМ АМЭРЫКІ

Атрымаць амэрыканскае грамадзянства — жаданьне шмат якіх мужчын і жанчын, што прыехалі ў Задзіночаныя Штаты на сталае жыцьцё. Шмат якія іміграНты, што жывуць тут ужо пяць год, могуць атрымаць амэрыканскае грамадзянства й карыстацца ягонымі правамі й прывілегіямі. Каб памагчы іміграНтам і выясьніць ім, што трэба зрабіць дзеля атрыманьня грамадзянства, Амэрыканская Рада службы для нацыянальнасьцяў выпусьціла інфармацыйны даведнік: „Як стацца грамадзянінам Задзіночаных Штатаў Амэрыкі".

У гэтым даведніку 120 бачынаў. У ім паказаныя ўсе патрабаваньні, стаўленыя іміграНту для атрыманьня ім грамадзянства, апісаны кажны крок працэдуры натуралізацыі й што неабходна дзеля гэтага зрабіць. У даведніку прыведзеныя так-жа Канстытуцыя Задзіночаных Штатаў, Дэклярацыя Незалежнасьці й адмысловы разьдзел, які складаецца із 130 пытаньняў і адказаў з амэрыканскай гісторыі й дзяржаўнага ладу, як дапаможны матар'ял для экзамену дзеля натуралізацыі.

Даведнік „Як стацца грамадзянінам Задзіночаных Штатаў" — стандартная праца ў гэтай галіне. Экзэмпляры даведніка, па адным даляры за кажны, можна атрымаць, напісаўшы ў:

American Council for Nationalities Service, 20 West 40th Street, New York, N. Y. 10018.



# ТАМ, ДЗЕ ДЭМАКРАЦЫЯ

## СПРАВА КВІБЭКУ

Справа Квібэку сталася цэнтральнай справай для ўсей Канады. У гэтай францускай правінцыі паўстаў моцны незалежніцкі рух, які не задавальняецца ўжо забясьпечаньнем францускай мовы й культуры ў Квібэку ды зраўнаньнем у правох з рэштай Канады ў эканамічным і палітычным жыцьці, а хоча аддзяленьня Квібэку й стварэньня зь яго незалежнай, сувэрэннай дзяржавы. Рух гэты мае моцны стымул і звонку. Яго падтрымлівае Францыя на чале з Дэ Голем, які, як ведама, ад даўжэйшага часу вядзе антыамэрыканскую й наагул антыангласаксонскую палітыку. Сваімі выступленьнямі за сэпаратызм Квібэку на Экспа — 67 і ў Францыі Дэ Голь спрычыніўся да завайстрэньня дачыненьняў між Францыяй і Канадай і выцягнуў справу Квібэку на міжнародную арэну.

Савецкі Саюз таксама падтрымлівае незалежніцкі рух у Квібэку, падтрымліваюць яго і ўсе камуністыя, як канадыйскія, так і замежныя — улучна з Кубай.

Для Канады аддзяленьне Квібэку прадстаўляе вялікую небясьпеку, як эканамічную, так і палітычную. Таму канадыйскі ўрад стараецца цаной уступак і пераконваньнем квібэцкіх палітыкаў знайсьці супольнае сужыцьцё й не дапусьціць да аддзяленьня гэтай вялікай і багатай правінцыі.

У самім Квібэку на працягу некалькі гадоў адбываюцца вялікія зьмены культурныя, гаспадарскія й палітычныя ды сацыяльныя — г. зв. „спакойная рэвалюцыя". Рэвалюцыя гэтая ня скончылася, яна працягваецца, яна хіба што й разьвяжа лёс гэтай краіны. Ня трэба забывацца, што Квібэк мае нацыянальную, палітычную й культурную аўтаномію, куды большую, як г. зв. „сувэрэнная" БССР. Квібэкам кіруе свой правінцыяльны ўрад, свой правінцыяльны парлямант і ўся ўлада ў правінцыі знаходзіцца ў руках квібэцкіх Французаў. Там цяпер адбываецца жывая дыскусія аб далейшым лёсе краіны, у якой бярэ ўдзел увесь народ.

Аднадумнасьці няма. Адны стаяць за аддзяленьне й незалежнасьць Квібэку — гэта самы скрайні кірунак, другія супраць аддзяленьня, трэйція бяз выразнага становішча. Сэпаратыстыя вядуць моцную прапаганду за аддзяленьне Квібэку, адкрыта зьбіраюць грошы на свой рух у Канадзе й Францыі, арганізуюцца і ніхто ім ня перашкаджае, ніхто іх не арыштоўвае й ня судзіць за тое, што хочуць адарваць Квібэк ад Канады, па колькі яны ня ўжываюць насільля й ня робяць матар'яльнай шкоды дзяржаве, ці прыватным асобам.

Сэпаратыстыя маюць вялікі ўплыў, але квібэканцы мусяць добра падумаць, ці варта ім аддзяляцца. Справа ў тым, што яны моцна зьвязаныя эканамічна з усей Канадай і Амэрыкай наагул. Аддзяліўшыся-ж, яны адарвуцца ад эканомікі ўсяго кантынэнту, ад тэй эканамічнай сыстэмы, якая тут пануе, і пытаньне, ці дадуць сабе рады ў сваёй абмежанай гаспадарцы. Як выказаўся нядаўна прэм'ер Квібэку Джонсан, Квібэк ня можа ўводзіць сваіх асаблівых правілаў гульні ў вадным кутку рынгу, тады калі ў цэлым эканамічным рынгу на ўвесь Паўночна-Амэрыканскі кантынэнт існуюць даўно ўжо ўсталеныя правілы, абавязкавыя для ўсіх.

Справа Квібэку актуальная й вельмі цікавая, асабліва-ж для народаў, паняволеных маскоўскім камунізмам. Таму дазволім сабе разглядзіць яе шырэй і глыбей. Дамо тут голас квібэцкаму журналістаму Клёду Раяну — рэдактару монтрэальскай газэты „Ле Дэвуар", зьмяшчаючы ягоную прамову, сказаную на гадавым сходзе Рады Канадыйскага Грамадзтва. Падамо гэтую прамову ў трох частках, так як друкуе яе „Канадыен Сін", пачынаючы з часткі першай.

**В. Ж.**

## КАНАДА Й НАЦЫЯНАЛЬНАСЬЦІ

Чым больш я задумваюся над пытаньнем, ці Канада выжыве, і над тым, як утварыць гармонію паміж яе дзьвюмя галоўнымі нацыянальнасьцямі, тым больш я пераконваюся, што стрыжэнь канадыйскай дылемы ляжыць у Квібэку; не таму, што квібэканцы горшыя за іншых Канадыйцаў, не таму, што яны спрытнейшыя, а таму, што гісторыя паставіла іх у такое становішча, якое яны мусяць зьмяніць. У сувязі з гэтым сярод іх адбываецца працэс эвалюцыі, якая ёсьць бадайшто найвызначнейшым зьявішчам для ўсей Канады.

У Квібэку ёсьць два кірункі думаньня, адзін пэсымістычны, другі аптымістычны. Праблема робіцца скамплікаванай тым, што адна й тая самая асоба трымаецца абодвух пунктаў гледжаньня й дзеля розных прычын можа перастаўляцца з аднаго пункту на другі.

**Пэсымістычны пагляд.** Паводля гэтага пункту гледжаньня, ангельская перамога на Раўніне Абрагама ў 1760 г. была такой катастрафальнай, зь якой канадыйскія Французы ніколі поўнасьцю не апраВіліся. На думку пэсымістых, на працягу двух стагодзьдзяў пасьля гэтай падзеі былі створаныя палітычныя інстытуцыі ў такой форме, якая заўсёды запэўнівала пераможцам зьверхніцтва над пераможанымі.

Пэсымістыя падкрэсьліваюць таксама той факт, што лік канадыйскіх Французаў на кіраўнічых становішчах у бізнэсе, прамысловасьці, гандлі й фінансавых інстытуцыях вельмі абмежаны.

Яны цьвердзяць на аснове статыстыкі, што француская нацыянальнасьць навет у Квібэку ня мае будучыні, што яна засымілюецца. Яе натуральны прырост зьмяншаецца. Цяпер ён ніжэйшы, як прырост у Антэрыё. І іміграцыя не ўзмацняе франкамоўнай групы, 85 працэнтаў імігрантаў, якія на працягу апошніх 20-ці год аселі ў Квібэку, улучыліся ў англамоўную групу гэтай правінцыі. Калі такая тэндэнцыя прадоўжыцца, праз адно стагодзьдзе ці паўтара канадыйскія Французы стануцца меншынёй у Квібэку.

Пэсымістыя любяць спасылацца на ўмовы, якія былі накінутыя канадыйскім Французам у Манітобе пры канцы мінулага стагодзьдзя. Яны цярпелі гэтыя ўмовы аж да нядаўнага часу, але за тое зрабілі такі вывнаў: калі Французы хочуць захаваць сваю нацыянальнасьць, дык ім нічога не застаецца, як утварыць сваю ўласную дзяржаву ў Квібэку.

Гэтае цьверджаньне сталася асновай незалежніцкай філязофіі, перш-пай філязофіі Квібэку, або нацыяналістычнай філязофіяй канадыйскіх Французаў. Незалежніцкі кірунак набраў такога насіленьня, што ён прызнаецца цяпер за вядучую інтэлектуальную й сацыяльную сілу ў Квібэку.

**Аптымістычны пагляд.** Шмат канадыйскіх Французаў уважаюць, што заваяваньне Квібэку было непазьбежнай падзеяй тых часоў. Гэта аптымістыя. Яны ўважаюць, што для канадыйскіх Французаў, паміма некаторых сапраўды некарысных умоваў, былі таксама й карысныя. На доказ гэтага падаюць статыстычныя лічбы. У 1760 годзе канадыйскіх Французаў было 60.000, у часе паўстаньня Канадыйскай Канфэдэрацыі (1867 г.) было іх крыху больш як мілён, а цяпер іх ёсьць каля шасьці міліёнаў; з гэтай лічбы панад пяць міліёнаў жыве ў Квібэку й твораць там сваю ўласную бальшыню, якая прадстаўляе паважную палітычную сілу ня толькі для Квібэку, але й для ўсей Канады.

Аптымістыя падкрэсьліваюць, што ў эканамічным жыцьці, паміма адсталасьці, канадыйскія Французы стварылі свае паважныя інстытуцыі, як рух крэдытовых касаў, работніцкія вуніі, фармарскія арганізацыі. Яны маюць каля двух тузінаў розных таварыстваў забясьпечаньня, якія добра праспэруюць і знаходзяцца ў поўным уладаньні й кантролі канадыйскіх Французаў. Бальшыня зь іх абапіраецца на капэратыўнай філязофіі, г. зна., што гэтыя таварыствы належаць не да капіталістых, а да тысячаў пайшчыкаў. Апрача гэтага, тысячы канадыйскіх Французаў займаюць паважныя й адказныя становішчы ў транс-Канадыйскіх, ці транс-Паўночна-Амэрыканскіх прадпрыёмствах і фінансавых канцэрнах.

Аптымістыя любяць адзначаць той поступ, які дасягнуты на працягу апошніх сямі-васьмі год у галіне асьветы, сацыяльным забясьпечаньні, публічнай маральнасьці, у публічнай абслузе Квібэку ды ў удзеле канадыйскіх Французаў у палітычным жыцьці на ўсіх узроўнях. Такія асобы, як мэр Монтрэалю Жан Драпо, Морыс Совэ ды іншыя вядучыя палітычныя фігуры, узьнімаюцца высака над усімі тымі палітыкамі канадыйскіх Французаў, што дзеялі 20 год таму назад.

(Працяг будзе).

**Паводля „Канадыен Сін"**

# БЕЛАРУСКАЯ ПАДСАВЕЦКАЯ ПАЭЗІЯ 1967 ГОДУ

Год 1967 ўжо за намі. А затым цікава падзяліцца з чытачамі агульнымі думкамі пра беларускую падсавецкую паэзію леташняга году: якія галоўныя тэндэнцыі выявіліся ў ейным разьвіцьці, якія паэты былі асабліва актыўнымі ў паэтычнай творчасьці ды якія дасягненьні мела беларуская паэзія наагул.

У леташнім годзе выдавецтва „Беларусь" выпусьціла каля 40 зборнікаў новых паэтычных твораў беларускіх паэтаў, ня лічучы перавыданьняў ранейшых твораў паэзіі. Лічба гэтая невялікая, хутчэй за ўсё навет сьціплая, калі ўзяць на ўвагу факт, што ў Беларусі сяньня зьвыш паўтары сотні больш ці менш творча дзейных паэтаў. Дый выданьня летась зборнікі паэзіі адно ў нязначнай ступені могуць адлюстроўваць паэтычную прадукцыю леташняга году. Рэч у тым, што зборнікі гэтыя зьмяшчаюць, з рэдкімі выняткамі, творы, напісаныя шмат раней, што ўжо друкаваліся папярэднімі гадамі ў часапісах і належаць, гэткім парадкам, да паэтычнай прадукцыі гэных гадоў. А паэтычную прадукцыю леташняга году становяць творы, што якраз летась былі напісаныя або прынамся летась упяршыню былі надрукаваньня. Дзеля гэтага больш мерадайнымі будуць для нас творы, што зьявіліся летась у літаратурных часапісах, чымся творы, што выйшлі кніжнымі выданьнямі.

У часапісах „Полымя", „Маладосьць", „Беларусь", у газэце „Літаратура і Мастацтва", а таксама ў зборніку „Дзень паэзіі" 1967 году былі надрукаваныя паэтычныя творы звыш 120-ёх аўтароў. Але й гэтая, хоць ужо не малая, лічба 120, яшчэ ня шмат нам кажа. Рэч у тым, што вялізарная бальшыня з гэнае лічбы 120-ёх паэтаў надрукавала ўсяго па колькі вершаў. А вершы гэныя, таксама ў вялізарнай бальшыні, апрача таго, што больш-менш пісьменныя з тэхнічнага боку, нічым асаблівым ня вызначаюцца, як творы мастацтва. Іхная ўдзельная вага ў вагульным паэтычным працэсе леташняга году затым або зусім нязначная, або й ніякая. Запраўдная-ж паэтычная прадукцыя леташняга году была справаю зусім невялікае колькасьці паэтаў.

Спасярод старэйшых паэтаў на першым месцы трэба паставіць, як і ранейшымі гадамі, **Максіма Танка.** Праўда, відаць, з прычыны перагрувашчаньня арганізацыйнай і рэпрэзэнтацыйнай працай на становішчы першага сакратара Саюзу пісьменьнікаў Беларусі, Максім Танк надрукаваў летась усяго каля паўсотні новых вершаў, тымчасам як папярэднімі гадамі звычайна друкаваў іх удвая больш. Але й гэтыя паўсотні вершаў сваёй сьвежасьцяй, непаўторнасьцяй і арыгінальнасьцяй творчых задумаў ды глыбінёю думкі добра сьветчаць аб тым, што паэта ў сваім творчым разьвіцьці ўсьцяж ідзе наперад.

Варта прыгадаць Танкаў вершык з 1963 году „Кесарава — Кесару", у якім, пры дапамозе ведамае евангельскай формулы, Танк сьцьвярджаў, што ён, у моц абставінаў, аддае неабходную даніну Кесару — партыі й ейнай ідэялёгіі, але перш-наперш служыць богу паэзіі — запраўднаму мастацтву. Вось-жа вельмі важна падчыркнуць, што навет і ў тых выпадках, калі Танк аддае гэнае „Кесарава Кесару", ён ня перастае быць паэтам.

Гэтага нельга сказаць, прыкладам, пра Пятруся Броўку, што летась быў таксама даволі дзейным у паэзіі. Ён надрукаваў сьцяг вершаў, вольных ад палітычна-партыйнай праблемнасьці, і вершы гэныя ўзапраўды на мастацкім узроўні. Але побач з гэтым, надрукаваў ён і ці мала палітычна праблемных вершаў, перш-наперш на гонар Леніна й 50-ых угодкаў Кастрычніцкай рэвалюцыі. Гэтыя апошнія вершы — ужо не паэзія, а вершаваная публіцыстыка.

Іншы таленавіты паэта **Аркадзь Куляшоў** надрукаваў летась, усяго колькі новых вершаў, што, аднак, нічым асаблівым ня вызначаюцца. Ня вызначаюцца нічым асаблівым і вершы **Алексея Зарыцкага,** што друкаваліся летась. Ладне вершаў сярэдняе якасьці выйшла летась з-пад пяра **Кастуся Кірэенкі, Міхася Калачынскага** й **Міколы Аўрамчыка.**

Спасярод паэтаў сярэдняга векам і малодшага паэтычнага пакаленьня летась меў значныя творчыя дасягненьні бадайшто найцікавейшы й найбольш таленавіты зь іх **Рыгор Барадулін.** Апрача колькіх вершаў, надрукаваў ён летась дзьве лірычныя паэмы — „Неба тваіх вачэй" і „Лінія перамены дат", якія можна ўважаць за каштоўныя й арыгінальныя прыклады наватарскае паэзіі. Ладне добрых вершаў выйшла летась з-пад пяра **Аляксея Пысіна, Ніла Гілевіча, Аляксея Русецкага, Пятруся Макаля, Ларысы Гэнюш і Еўдакіі Лось.** Асабліва значныя творчыя дасягненьні ў сваім наватарскім экспэрымэнтаваньні меў вельмі цікавы й арыгінальны паэта **Янка Сіпакоў.** Творча актыўнымі былі летась некаторыя паэты, што папярэднімі гадамі траха зусім былі замоўклі, як **Сьцяпан Гайрусёў, Уладзімер Паўлаў, Хведар Жычка** й **Кастусь Цьвірка.**

З паэтаў малодшых значную колькасьць добрых вершаў напісалі летась **Юрась Сьвірка, Анатоль Вярцінскі, Раман Тармола, Вольга Іпатава, Васіль Зуёнак, Сяргей Панізьнік, Іван Летка, Рыгор Семашкевіч, Анатоль Сербантовіч, Вера Вярба, Уладзімер Ляпёшкін,** а з наймалодшых паэтаў — **Аўгеня Янішчыц.**

Узнагароджаны летась Дзяржаўнай прэміяй імя Янкі Купалы, за выдадзены ў 1966 г. зборнік „Пры сьвятле маланак", **Пімен Панчака,** раней нязвычайна плённы паэта, летась, за выняткам аднаго верша, зьмешчанага ў „Дні паэзіі" 1967 году, не надрукаваў нічога новага. Ды ня толькі ён, але бадайшто нічога новага, за выняткам двух-трох вершаў, не далі летась і гэткія творча вельмі актыўныя раней і здольныя паэты, як **Генадзь Бураўкін, Уладзімер Караткевіч, Мікола Арочка, Данута Бічэль-Загнетава** й цэлы сьцяг іншых .

Пры ўсіх сваіх бясспрэчных дасягненьнях, беларуская паэзія леташняга году ўсё-ж была ніжэй сваіх патэнцыяльных магчымасьцяў. Даводзіцца поўнасьцяй згадзіцца з ацэнай Максіма Танка, выказанай ім у ягонай прамове да ўдзельнікаў леташняга сэмінару для маладых пісьменьнікаў, што „паэзія стала зьявай масавай, але добрая паэзія . . . зьява надзвычай рэдкая".

Вельмі моцна тармозіць нармальнае разьвіцьцё паэзіі ўжо сама палітычная атмасфэра. Пасьля выразнае палітычнае адлегі ў пачатку 60-ых гадоў, дзякуючы якой і занычыўся тады вялікі творчы ўздым у беларускай літаратуры, ужо напрыканцы 1965 году наступілі золкія прымаразкі. Штораз назойлівей пачала ўмешвацца ў літаратурнае жыцьцё партыя, намагаючыся адпаведна рэгляментаваць увесь літаратурны працэс. А гэта не магло спрыяць нармальнаму разьвіцьцю паэзіі. Апрача гэтага, асабліва леташні год ня мог быць спрыяльны для разьвіцьця літаратурнае творчасьці ўжо з тае прычыны, што партыя, бадайшто ў дырэктыўным парадку, арыентавала пісьменьнікаў на адзначаньне ў іхнай творчасьці 50-ых угодкаў Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Вынік быў той, што ў беларускай паэзіі зьявілася процьма вершаў і твораў большых жанраў, прысьвечаных кастрычніцкаму юбілею, але сярод іх ня было літаральна ніводнага на ўзапраўды высокім мастацкім узроўні. Усе яны былі або вершаванай публіцыстыкай, як, прыкладам, юбілейныя вершы Пятруся Броўкі ці Антона Бялевіча, або даведзенай да крайнясьці гіпэрболікай, як юбілейная паэма Сьцяпана Гаўрусёва. „Профіль веку".

Літаратурная творчасьць леташняга году наглядна паказала, што тэма Кастрычніцкай рэвалюцыі, ленінская тэма, вымушаныя хвалась-певы партыі й паэтычнае ўслаўленьне ўяўных савецкіх дасягненьняў гэтак ужо прыеліся паэтам, што ня могуць служыць крыніцай запраўднага натхненьня.

Як ведама, ува ўсіх галінах беларускага мастацтва апошнім часам штораз мацнейшай становіцца тэндэнцыя звароту да нацыянальных традыцыяў, да нацыянальнай культуры народу, ягонай гістарычнай мінуўшчыны.

Гэтае імкненьне да звароту й культываваньня нацыянальных традыцыяў шырака праявілася ў беларускай паэзіі й летась, і гэта значна шырэй і глыбей, чымся ў іншых галінах мастацтва. Нацыянальная ськіраванасьць і нацыянальная калярытнасьць летась была выразная ў творчасьці бадай што ўсіх беларускіх паэтаў розных пакаленьняў. Навет пачынаючыя паэты звычайна рабілі свой старт у паэзіі вершамі, насычанамі шчырымі пачуцьцямі патрыятычнай любасьці да роднага краю, свайго народу, а перадусім — да свае роднае мовы. Нацыянальныя традыцыі, калі яны будуць усьцяж культывавацца й паглыбляцца, не зважаючы на ніякія перашкоды звонку, маглі-б стацца тэй жыцьцятворнай сілай, што вывяла-б беларускую паэзію ізь сяньняшняга крызісу ды памагла-б дасягнуць ёй высокіх мастцкіх узвышшаў.

**Ст. Крушыніч**

# „ХУНВЭЙБІНЫ"

**Малады беларускі паэта Анатоль Вярцінскі зьмясьціў у сьнежанскім нумары часапісу „Полымя" за леташні год цікавы свой твор „Хунвэйбіны". Слова „хунвэйбіны" абазначае кітайскіх камуністычных чырвонагвардзейцаў, пры дапамозе якіх Мао-дзе-дун праводзіў г. зв. культурную рэвалюцыю. Перадрукоўваем ніжэй гэты твор, як цікавы прыклад палітычнай сатыры, тым больш, што апісаная ў ім палітычная атмасфэра маральнага й фізычнага тэрору вельмі-ж прыпамінае нядаўныя йшчэ часы сталіншчыны ў Савецкім Саюзе.**

Мне сьнілася, што мяне білі
на нейкай плошчы хунвэйбіны.
Па твары білі, па сьпіне.
Іх хунвэйбінскія дубіны
лупілі-білі так па мне,
як б'юць па пыльным дыване.
Мой учарашні брат і друг
зь мяне і выбіваў мой нізкі,
так званы рэвізіяністкі,
так званы буржуазны дух.
„За што?!—я спрабаваў пытацца.—
Хіба я ня люблю Кітайца?
Хіба я вам ня друг і брат? . . ."
Быў у вадказ — удараў град.
Што ты дакажаш хунвэйбінам,
дубінам іх і ім, дубінам?
Нічога не дачажаш, не.
Тым больш — не наяву, а ў сьне.
Яны-ж, пад гіканьне і рогат,
пад дзікі тупат, дзікі сьвіст,
затым мне учынілі допыт:
„Дык хто-ж ты ўсё-ж —
рэвізіяніст?!
Капітулянт, Капіталіст? —
Матэр'яліст? Апартуніст? —
Дапытвалі пад шум і сьвіст:
— Чаму, скажы, не мааіст?!
Чаму маўчыш?
Дыханьне сьпёрла?!"
І да майго ўжо кадыка,
і да майго ўжо, бач, горла
чыясьці цягнецца рука.
І падступаюць хунвэйбіны,
і ад разьюшанай крыві
гараць іх вочы, як рубіны.
„Дык хто ты ўсё-ткі? Назаві!"
„Я чалавек, — сказаў я ціха. —
Я чалавекам хачу быць."
І закрычалі яны дзіка,
і сталі крыць,
і сталі выць:
„Вы чулі, чулі, хунвэйбіны?!
Дык гэта-ж зьдзек,
дык гэта-ж кпіны!
Дык гэта-ж нябывалы зьдзек!
Вы бачылі?! Ён — чалавек!
Вы чулі? Хоча чалавечнасьці!
Ён чалавекам хоча быць!
Дык ён-жа горш усякай нечысьці!
Такога мала і прыбіць.
Вы чулі, чулі, хунвэйбіны?!
Ён хоча ласкі галубінай,
сьмяяцца хоча і любіць.
А ну-тка даць яму дубіны!
Такога мала і забіць.
Ён хоча думаць!
Яму мала,
што думае вялікі Мао
за ўсіх за нас і за яго!
Яму дай думаць! Ого-го!
Ён хоча ведаць!
Яму мала,
што ведае вялікі Мао
усё і ўся — што, дзе і як!
Ён хоча ведаць!
Ён — маньяк!
Ён хоча мець імя,
бо мала
яму імя такога — Мао!
Ня рад такому імю, гад!
Нягоднік! Здраднік! Рэнэгат!
Ён хоча мець свой твар,
свой воблік,
сваё сьвятло! . .
Ты-ж — бледны водбліск
сьвятла, што йдзе, нібы зара,
ад вобліку правадыра!
Ён хоча . . . Чулі, хунвэйбіны?
(Яны ўзяліся за дубіны).
Ён хоча . . . Чулі, хунвэйбінкі?
(Яны ўзяліся за дубінкі).
Ён не даўбешкай і ня пешкай —
Ён хоча чалавекам быць!
Дкы вось ён —
вораг нумар першы,
якога мала і забіць!
Чацьвертаваць такога мала!
Няхай жыве вялікі Мао!
Няхай жыве вялікі Мао!
Наш родны бацька,
наша мама! . ."
Далей мне сьнілася:
прышылі
плякат мне на сьпіне —
вось зьдзек! —
І ўсьцяж вялікай гэтай шыльды
вялікай літарай аршыннай
накрэсьлілі: „Ён — чалавек".
Адзін такі плякат прышылі,
другі павесілі на шыі
і павялі — на нейкі сход,
на нейкі суд ці эшафот.
Натоўп усьлед крычыць:
„Злавілі!"
Натоўп усьлед крычыць:
„Зламілі!"
Вы бачылі? Ён — чалавек!
Не, ты ня будзеш ім павек!"
Паглядамі, нібы штыкамі,
мяне пранізвалі наскрозь.
Мне пагражалі кулакамі.
Крычалі: „Вось ён! Вось ён! Вось..."
Яшчэ выкрыквалі пад сьвіст:
„Яго у самы чорны сьпіс!
У самы чорны, самы чорны —
калі такі ён непакорны!
У самы чорны, самы чорны!
Яго ў такія трэба жорны,
каб на муку перамалоць
яго паганы дух і плоць! . ."
І тут я ўбачыў раптам жорны.
Такія ў вёсцы бачыў я.
Я ўбачыў жорны той-жа формы,
ды толькі большыя ўтрая,
а можа быць — разоў у дзесяць.
Як толькі іх змаглі падвесіць,
узьняць такія камяні?
Іх зь месца паспрабуй скрані!
Раскрылі пашчу тыя жорны!
О жах! Хвіліна — і яны,
азьвераныя валуны,
нас перамелюць,
нібы зёрны.
І тут я закрычаў у сьне:
„Не, не, ня трэба! Толькі — не! . ."
Прачнуўся я ў халодным поце.
Рукой памацаў валасы.
Так, пабылі мы ў пераплёце . . .
Яшчэ гучэлі галасы:
„Вы чулі, чулі, хунвэйбіны?!
А ну-тка даць яму дубіны! . .
У самы чорны, самы чорны!
Яго ў такія трэба жорны! . ."
Я ўзьняў з падушкі галаву.
У ранішнюю сіняву
сплывалі здані-хунвэйбіны,
іх вочы гасьлі, як рубіны.
Пабачыў гэта ўсё ня ў сьне.
. . . Сінеўся ранак у вакне.

Анатоль Вярцінскі





## АБВЕСТКІ МАНАСТЫРА МІР

### ПАШТОВЫЯ МАРКІ

Жаноцкі Манастыр БАПЦ гэтым заклікае ўсіх зьбіраць паштовыя маркі й перасылаць іх Манастыру. Яны будуць прадавацца й грошы скарыстоўвацца на місійную й народную дзейнасьць. Маркі трэба адклейваць без пашкоджаньняў іх ды перасылаць, як назьбіраецца іх большая колькасьць. А каб было ў нас больш даражэйшых марак, дык усе павінны наклейваць маркі адмысловых выданьняў і ў драбнейшых знаках.

Ня выкідайце канвэртаў з паштовымі маркамі, але адклейвайце маркі й зьбірайце іх на пабожную й народную справу!

### ЛЕТНЯЯ ШКОЛА

Манастырская летняя школа пачнецца 28 чырвеня. Запісвайце сваіх дзяцей у кіраўніка школы сп. Янкі Чыжыка.

### НАРОДНАЯ КНІЖНЯ

Беларуская Народная Кніжня (Бібліятэка) пры Манастыры БАПЦ зьбірае ўсякія кнігі, дакумэнты, лісты й творы ўсіх Беларусаў. Вашыя сакрэтныя рэчы будуць замкнутыя ў бясьпечным месцы й даступныя навуковым працаўнікам адно пасьля сьмерці собсьніка. Ня перахоўвайце дарагіх рэчаў у няпэўным месцы, але злажыце іх на пераховаваньне ў Народную Кніжню пры Манастыры БАПЦ.

### МАЛІТАЎНІК

Выйшаў з друку першы беларускі ПРАВАСЛАЎНЫ МАЛІТАЎНІК, выдадзены БАПЦаркваю. Атрымаць можна ў кажнай БАПЦаркве.

### СЬВЯТА ПРАДСЛАВЫ

Сьвята Прадславы прыпадае 5 чырвеня 1968 г. Ці ўсё падрыхтавана ў Тваёй сям'і да гэтага вялікага для ўсіх Беларусаў сьвята? Крыж прадславы павінен быць у кажнай беларускай хаце, ружовая стужка ў кажнай асобы, букет шыпшыны-ружы на кажным стале. Памятайма Прадславу! Пашана Прадславе й слава Беларускаму Народу!

**ПРАДСТАЎНІЦТВЫ „БЕЛАРУСА"**

**UNITED STATES:**

1. **Mr. J. Azarka**
   154 Emerson Street,
   Somerset, N. J.
2. **Mr. Andrey Streszyn**
   3407 Mapledale Avenue
   Cleveland, Ohio 44109
3. **Byelorussian Association in the State of Illinois**
   2042 W. St. Paul Avenue
   Chicago, Illinois 60647
4. **Byelorussian-American Ass'n**
   4055 Normandy Road
   Royal Oak, Mich., 48072

**CANADA.**

**Dr. Raisa Zuk**
54 Mary Street
Barrie, Ont.

**AUSTRALIA:**

1. **Mr. M. Nikon**
   14 Steel Street
   Spotswood W. 14, Vic.
2. **Byelorussian Ass'n of N.S.W.**
   4 Third Avenue
   Canley Vale, N.S.W.

**ENGLAND:**

1. **Mr. A. Laszuk**
   97 Moore Park Rd.
   London, S.W. 6
2. **Mr. J. Kalbasa**
   3 Rowton Thorpe
   Greengates
   Bradford, Yorks
3. **The Byelorussian Club**
   74 Bellott St., Cheetham
   Manchester 8

**FRANCE:**

**Mrs. Kasztelan M. Marie**
1, Rue Negrier
Mouvaux 59

**GERMANY:**

**Mr. Aleksander Malawko**
82 Rosenheim/Obb.
Am. Gern 4.